



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 чэрвеня 2016 года №24 **(1102)**


## Сын байкеркі: "Мам, ты ў мяне такая крутая"

старонка 20-21

## Былы намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама нанёс шкоды на 700 мільёнаў

старонка 4

## Выпрабавана на сабе: як я працавала ваўчыхай

старонка 22

Мала93ечна-2016

## Праграма Нацыянальнага фестывалю

старонка 6



# Два плаваюць, два на шухеры стаяць

**Чаму ў любімым месцы купання віляйчан, Салдацкім возеры, купацца нельга**

старонка 2

Фота Ігара МАРОЗА.

НАМ ПІШУЦЬ



# Паважаныя дэлегаты! Уратуйце нашу родную беларускую мову

**Паважаныя дэлегаты 5-га Усебеларускага народнага сходу!**

Мяне, як і многіх беларусаў, вельмі непакоіць гаротны стан роднай мовы. Хоць афіцыйна яна з'яўляецца дзяржаўнай, але пасля рэферэндуму 1995 года нашы чыноўнікі паставілі беларускую мову фактычна на мяжу знікнення, поўнага выцяснення яе з усіх сфер грамадскага жыцця. Вышэйшым кіраўніцтвам краіны, дэпутатамі парламента парушаны прынцып канстытуцыйнай роўнасці двухмоўя. Я хачу чытаць усе законы Рэспублікі Беларусь, дэкрэты і ўказы кіраўніка дзяржавы, пастановы ўрада, рашэнні мясцовых улад па-беларуску. Але ж такой магчымасці не маю. Амаль усе заканадаўчыя і нарматыўныя акты прымаюцца і публікуюцца на адной дзяржаўнай мове – рускай. Чаму ўлада абмежавала маё права як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь?

Прэзідэнт краіны адночы сказаў, што мова не павінна быць палітычнай катэгорыяй. А на самой справе беларускія ўлады зрабілі ўсё для таго, каб мова стала "яблыкам раздору", сродкам палітычнай барацьбы. Беларусаў сённяшнія дзяржаўныя чыноўнікі мэтанакіравана, свядома вядуць да этнічнага вымірання. Агрэсіўная русіфікацыя, ігнараванне на дзяржаўным узроўні беларускай мовы, пераслед грамадзян за прыхільнасць і ўшанаванне нацыянальнай гісторыі, культуры, нацыянальных сімвалаў, святаў – хіба ж гэта нармальная палітыка?

Прапаную вам, паважаныя дэлегаты, глыбока і ўсебакова абмеркаваць прычыны перакосаў у дзяржаўнай культурна-моўнай палітыцы і патрабаваць ад улад усіх узроўняў прынцыпу дзейсных захадаў, каб выправіць гэтыя перакосы. На гэта ў вас ёсць права, дэлегаванае народам Беларусі, і памятайце аб адказнасці перад гісторыяй за лёс краіны.

**Сёння, як ніколі раней, беларускай мове трэба грунтоўная дзяржаўная падтрымка.**

Беларускім уладам, на маю думку, трэба зрабіць найперш тры рашучыя крокі:

- забяспечыць канстытуцыйную роўнасць дзяржаўнага двухмоўя;
- забяспечыць навучанне ў палове (50%) сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў па-беларуску;
- прыняць Закон Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы".

Паважаныя дэлегаты! Уратуйце нашу родную беларускую мову. Выратуйце беларусаў ад русіфікацыі.

**Міхась СПІРЫДОВІЧ,**
**сябра Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Івянец, Валожынскі раён.**

# Расійская фірма не выплачвае заробкі на АЭС

АСТРАВЕЦ

Да нас у рэдакцыю звярнулася супрацоўніца расійскай будаўнічай фірмы "СЕЗАМ", прадстаўніцтва якой у Беларусі працуе на будаўніцтве атамнай электрастанцыі, з абурэннем наконт таго, што не атрымала заробак яшчэ за сакавік.

**Вольга** расказала, што яна і яшчэ каля 20 чалавек штодзень ездзяць на працу з Ашмянаў.

– Уладкавалася на фірму ў мінулым годзе. Праблемы з заробкам былі і тады. Заробак за чэрвень я атрымала толькі ў верасні.

Сёлета за сакавік і красавік Вольга атрымала заробак толькі 26 мая.

– Нам выплацілі 2,4 мільёна за два месяцы. А ў кантракце прапісана, што заробак у месяц – 10-12 000 расійскіх рублёў (прыкладна 3, 5 мільёна). І выплачваца ён павінен два разы на месяц.

Дырэктар прадстаўніцтва фірмы ў Беларусі **Аляксандр Перлінаў** пракаментаваў, што такая сітуацыя на фірме склалася з-за таго, што ў Расіі былі доўгія выхадныя на майскія святы.

– Як толькі на рахунак фірмы паступяць сродкі, мы тут жа разлічымся з работнікамі. Самае позняе гэта адбудзецца 15 чэрвеня, – запэўніў Аляксандр Перлінаў.

**Наталля ТУР.**

ТЭМА НУМАРА

# "Два плаваюць, два на шухеры стаяць"

ВІЛЕЙКА

**Так апісвае купанне на Салдацкім возеры ва ўрочышчы Дубаўка карэнны віляйчанін Віталь Галубіцкі.**

Летась за водныя працэдуры ў ім ён ужо атрымаў штраф:

– Як заўжды вечарам 29 чэрвеня прыбег на возера паплаваць, – прыгадвае. – Праходжу, стаіць машына і два міліцыянеры. Побач з імі прайшоў, распрануўся, паплаваў. Яны пад'ехалі, перагарадзілі мне дарогу. Дасталі тэлефон і паказалі фота: "Вось бачыце, парушэнне". Склалі пратакол.

Віляйчанін думаў, пратакол пратаколам, але неяк усё вырашыцца. Аднак потым выклікалі на камісію у райвыканкам і далі штраф 180 тысяч рублёў.

– Людзі, з якімі разам плаваем, кажуць: "Мы б не плацілі". Ну думаю, і плаціць не буду. Але перад Новым годам з пенсіі вылічылі ўжо больш, амаль 200 тысяч рублёў. Але я скарджуся не на гэта, а на тое, што ў родным возеры, у якім 50 год плаваю, пакупацца не магу.

Расказвае Віталь Галубіцкі, што людзі ўсё роўна прыходзяць на Салдацкае купацца, але робяць гэта з асцярогай:

– Ідзём на Салдацкае плаваць, як быццам на бровар. Два плаваюць, два на шухеры стаяць. Летась міліцыянеры ездзілі на машыне. Людзі баяліся: хто ведае, будуць штрафаваць ці не. Ніхто не хоча штраф атрымаць. Але як цёпла, як гэта можна загараць і не пакупацца? Ці ўявіце сабе вадасховішча. Я сам аматар актыўнага адпачынку, хаджу на байдарцы, бачу, колькі людзей адпачывае на яго берагах. Калі іх усіх сагнаць на афіцыйна зацверджаны пляж, то там будзе такі натоўп, што выратавальнікі рады не дадуць. Ці на байдарцы пойдзеш, спякота, а як жа акунешся – дзе гарантыя, што ўчастковы не зловіць. Ці ж гэта разумна?




Фота Ігара МАРОЗА.

Нягледзячы ні на што, для многіх віляйчан Салдацкае возера – любімае месца для купання.

### Там рэзкія перапады глыбінь

Чаму за купанне на Салдацкім возеры можна атрымаць штраф, патлумачыў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**.

– Нашы спецыялісты абследавалі Салдацкае возера і зрабілі заключэнне, што яно немэтазгоднае для купання грамадзян. Там рэзкія перапады глыбінь, глеістае няроўнае дно. Калі чалавек умее плаваць, то нічога, а калі не – то скончыцца можа дрэнна, – патлумачыў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі Ягор Роўда. – Калі вышка стаяла там, кожны год тапіліся людзі. Таму нават хадайнічалі, каб яе спілаваць. Калі ўладамі забароненае купанне тут, то значыць забароненае, ёсць жа іншыя месцы.

**Рашэннем райвыканкама зацверджаныя тры месцы для купання на гэтае лета ў Вілейскім раёне: гарадскі пляж на Вілейскім вадасховішчы ў раёне выратавальнай станцыі, дзіцячы пляж "Сонечны" на рацэ Вілія ў горадзе, сажалка ў вёсцы Асіпавічы.**

– Там абследаваныя пляжы, выстаўленыя буі, ачышчанае дно, – кажа Ягор Роўда. – Зараз рыхтуецца рашэнне, у якім будуць вызначаныя забароненыя для купання месцы. Каб адпачынак на вадзе быў бяспечны, раю купацца ў адведзеных для гэтага месцах, уважліва глядзець за дзецьмі і не ўжываць алкаголь падчас баўлення часу ля вады.

Як з'явіцца рашэнне пра забароненыя для купання месцы, пазнаёмім нашых чытачоў з ім і каментаром міліцыі.



**Алесь ВЫСОЦКІ**
alvy@tut.by

### Як могуць штрафаваць

Згодна з Кодэксам аб Адміністрацыйных праваапарушэннях Рэспублікі Беларусь "Купанне ў забароненых месцах", парушальнік можа быць пакараны штрафам у памеры ад адной да трох базавых велічынь (сёння гэта ад 210 да 630 тысяч рублёў).

Забароненыя для купання месцы фарміруюцца ў дакладны пералік. Пра тое, што тэрыторыя вадаёма з'яўляецца небяспечнай для жыцця або здароўя, сведчыць адпаведная шыльда з надпісам "Купанне забароненае". Калі такой шыльды каля вадаёма няма, тады купанне ў ім не з'яўляецца парушэннем артыкула.

**Паводле адказу на юрыдычным форуме kodeksy-by.com.**

# Навучэнцы філіяла каледжа ў Камарове давучацца ў Вілейцы

## Навучальны працэс на год збіраюцца закансерваваць

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

**У лепшыя часы ў колішнім сельскагаспадарчым вучылішчы ў вёсцы Камарова на Мядзельшчыне вучылася больш за 600 чалавек.**


Фота з суполкі "Укантакце" філіяла.

Калісьці корпус гудзеў ад навучэнцаў.

Потым іх колькасць стала змяншацца. І навучальная ўстанова, якая ўжо звалася ліцэем, стала філіялам Вілейскага дзяржаўнага каледжа.

У апошнія гады работнікам застаецца толькі гадаць, што будзе з філіялам: закрыюць ці не. Як яно будзе сёлета?

### Прычыны заняпаду

Калісьці ў Камарове вучылася моладзь з усяго рэгіёна, расказвае дырэктар Вілейскага каледжа **Ігар Кіцікаў**:

– Прыязджалі вучыцца з Літвы, шмат навучэнцаў было са Смаргоні, асабліва калі там пачалі заводы будавацца. Нават быў спецыяльны аўтобусны рэйс, які ў пятніцу забіраў навучэнцаў, а ў панядзелак прывозіў. Потым з'явілася граніца – літоўцаў не стала. У Смаргоні адкрылі вучылішча з падобнымі спецыяльнасцямі. Такім чынам, адсеклі смаргонскіх дзяцей. Паколькі ў нас цяпер прасцей паступіць у інстытуты, каледжы і ліцэі, сталі змагацца за кожнага вучня. Павысілася якасць навучання ў Пастаўскім каледжы, дзе падобныя спецыяльнасці. У выніку, калі раней у Камарова з'язджаліся навучэнцы з усяго рэгіёна, то частка яго закрылася, з іншых перасталі ездзіць.

Другое пытанне – гэта транспартныя шляхі.

– Камарова называю па-добраму, "мядзведжы куток", – кажа дырэктар. – З аднаго боку – мяжа, чыгункі побач няма. Калі ў Вілейку на чыгунцы адусюль дабярэшся, то ў Камарова – толькі на аўтобусах. А гэта дорага.

Яшчэ адзін момант: вёска невялікая.

– Мясцовую гаспадарку далучылі да Свірскай, зачынілі школу. Там з забаў крама, пошта і парк. У выніку за пяць год, як далучылі да нас ліцэй, ніводнага маладога спецыяліста не атрымалася ў Камарова прывабіць, – дадае Ігар Кіцікаў.

### Закрываць філіял збіраюцца не ў першы раз

Закрыццё ідзе гады тры з пераменным поспехам.

– Была прапанова тры гады таму закрыць філіял. Разам з калектывам адстаялі. Потым два гады таму – зноў адстаялі, – тлумачыць дырэктар. – Але справа ў тым, што на сёння засталося каля 50 навучэнцаў. Прычым, ля 40 у чэрвені выпускаюцца, застаюцца толькі 12. Бо ў апошнія два гады не набралі ніводнай групы. Было шэсць, 10 заявак, а трэба мінімум 15, а лепш 25-30.

Расходы на ўтрыманне філіяла вялізныя. Корпус разлічаны на 400 навучэнцаў, інтэрнат на 300. А атрымліваецца 60 работнікаў і 50 навучэнцаў.

У абласным упраўленні адукацыі падлічылі, што ўтрыманне аднаго навучэнца філіяла ў год каштуе 160 мільёнаў рублёў. А ў сярэднім па вобласці – 25-30 мільёнаў.

**– Выходзячы з таго, што на бліжэйшы час перспектыў няма, пакуль прынятае вуснае рашэнне на год закансерваваць навучальны працэс. Як яно будзе далей, пакуль нельга сказаць, – кажа Ігар Кіцікаў.**

– Павінна застацца вучэбная гаспадарка, якая рэнтабельная. Ажыццяўляем там экалагічны праект. Выйгралі грант каля 18 тысяч еўра: з гною з дапамогай беларускіх чарвякоў будзем рабіць кампост. Будзе працаваць інтэрнат, паколькі там жыве шмат будаўнікоў АЭС. Вартаўнікі застануцца. Будынкі спрабуем па максімуму задзейнічаць: што перададзена пад розныя аб'екты, што ў арэндзе.

### Што будзе з работнікамі і навучэнцамі

Скараціць давядзецца каля 30 чалавек, з іх 16 пенсіянераў.

– Астатнія шукаюць працу ў розных структурах. Але разумееце, з працоўнымі месцамі цяпер цяжка.

У Вілейцы правялі сход з бацькамі 12 дзяцей, пазнаёмілі іх з умовамі ў каледжы. Правялі анкетаванне.

– 90% згодныя, каб дзеці трэці курс давучыліся ў Вілейцы – з той умовай, што наша маршрутка будзе іх у нядзелю ці панядзелак забіраць, а ў пятніцу пасля абеду завозіць у Камарова, – кажа Ігар Кіцікаў. – Прытым, ім застанецца вучыцца да студзеня, а далей – практыка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Свірскую школу механізацыі адкрылі ў Камарове ў 1940 годзе. Тут падрыхтавалі больш за 20 тысяч спецыялістаў.

### Можа, зрабіць прафілакторый?

Сваёй думкай падзяліўся краязнаўца з Камарова **Іван Драўніцкі**:

– Як пачала скарачацца колькасць навучэнцаў, работнікі пачалі хто дзе можа шукаць працу – разумелі, што да гэтага ідзе. Многія былі перадпенсійнага ўзросту. А маладзейшыя – некаторыя ездзяць на будаўніцтва АЭС, у нарачанскія здраўніцы, у Свірскі дом-інтэрнат.

Мая думка – пабудовы трэба перадаць іншай арганізацыі і зрабіць тут прафілакторый. Чаму? Найперш, тут пекнае месца, прыгожы парк, сажалкі, недалёка Блакітныя азёры. Па другое – ёсць дзве спартыўныя залы і выдатны стадыён, добрая кухня, інтэрнат, у класах можна парабіць кабінеты для працэдур.

Мажліва вырошчваць экалагічна чыстую прадукцыю і карміць не пакупным, а мясцовым – як пры Польшчы рабіў граф Старжынскі. У сажалкі запусціць рыбу – і будзе свая рыба. Пасадзіць клубніцы, як было пры пану, – будуць ягады і варэнне. І гэтак далей.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**8** столькі беспрацоўных прэтэндуюць на **адну** вакансію на Маладзечаншчыне

Паводле Упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.06 | 9.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 877,00 | **19 807,00** |
| Еўра | 22 140,00 | **22 523,00** |
| Злоты | 5 024,38 | **5 196,27** |
| Расійскі рубель | 298,28 | **306,42** |
| Грыўня | 787,66 | **795,03** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 8.06** | | |
| Еўра | 21900/22150 | **22400/22650** |
| Долар ЗША | 19700/19920 | **19700/19900** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 1.06 | 8.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 143 500 | **143 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 800 | **29 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 800 | **41 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **15 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 15 500 | **15 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11 500 | **14 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 59 500 | **49 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 8 500 | **8 900** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 14 900 | **13 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 57 000 | **48 900** |
| Лімоны, 1 кг | 47 000 | **46 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 25 000 | **24 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 38 000 | **34 900** |
| Нектарыны, 1 кг | 50 000 | **44 900** |
| Абрыкосы, 1 кг | 45 000 | **39 900** |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | **24 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 22 500 | **22 500** |
| Агуркі, 1 кг | 7 900 | **13 900** |
| Перац, 1 кг | 56 000 | **57 500** |
| Радыска, пучок | 5 500 | **5 500** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 13 500 | **14 900** |
| Клубніцы, 1 кг | 65 000 | **35 000** |
| Чарэшні, 1 кг | 69 900 | **69 900** |
| Вінаград, 1 кг | 40 000 | **43 500** |
| Бананы, 1 кг | 24 900 | **23 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 500 | **12 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 32 500 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 15 000 | **15 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## У Вілії патануў малады віляйчанін

ВІЛЕЙКА

Адбылося гэта 29 мая пасля васьмі гадзін вечара паблізу вёскі Красны Беражок.

– На беразе Вілії адпачывала кампанія. Адзін мужчына з яе пайшоў у раку акунуцца і аступіўся. Там рэзкі перапад глыбінь, а жыхар Вілейкі не умеў плаваць, – патлумачыў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**.

Праз некалькі дзён віляйчаніну споўнілася б 31 год.

## На пешаходным пераходзе збілі жанчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося каля 11 гадзін раніцы 3 чэрвеня на пешаходным пераходзе каля магазіна “Міла” на вуліцы Валынца.

У аварыі пацярпела 48-гадовая жанчына.

Расказвае відавочца здарэння:

– Я ехала за тым “Мерсэдэсам”, што збіў жанчыну. Заўважыла, што яна пераходзіць дарогу яшчэ ля ювелірнага магазіна. Падумала: во, як хутка едзе машына, няўжо жанчына ўжо перайшла дарогу. І як толькі гэта падумала, раптам убачыла, што жанчына паляцела ўверх над машынай. Яе адкінула аж да ляжачага паліцэйскага. Я выскачыла са сваёй машыны, падбегла да жанчыны. Яна сама спрабавала падняць галаву. Але тыя, хто быў на месцы здарэння, забаранілі ёй гэта рабіць. Кроў лілася са скроні. Вельмі хутка прыехалі і “хуткая дапамога”, і міліцыя. Жанчыну павезлі ў бальніцу.

## Прадавец адлучылася, а з касы паспелі скрасці грошы

ВІЛЕЙКА

Каля гадзіны дня 4 чэрвеня ў міліцыю звярнулася прадавец крамы па вуліцы Прывакзальнай у Вілейцы.

Крама працавала, але пакупнікоў ля касы не было. Жанчына закрыла яе на ключ і пакінула яго. Адышла літаральна на хвілінку-другую.

Калі вярнулася, то ўбачыла, што нехта пакінутым ключом адкрыў касу і скраў амаль тры мільёны рублёў.

Асобу злачынцы ўстанаўліваюць. Крама абсталяваная відэаназіраннем, цяпер вывучаюць відэазапіс, расказаў начальнік райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

## Старую ферму тушылі выратавальнікі трох абласцей

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА, АСТРАВЕЦ

Пасля 18 гадзін 2 чэрвеня паступіла паведамленне пра пажар у будынку малочнатаварнай фермы ў вёсцы Аўстраўляны Занарацкага сельсавета на Мядзельшчыне.

Яна ўжо не эксплуатуецца, пабудаваная ў 1965 годзе.

Загаранне заўважыла жыхарка вёскі. На тушэнне накіравалася восем аўтацыстэрн – з Мядзельскага, Вілейскага, Астравецкага і Пастаўскага райаддзелаў па надзвычайных сітуацыях.

Па прыбыцці першых падраздзяленняў дах фермы гарэў адкрытым полымем. Агонь цалкам знішчыў яго, будынак выгараў знутры.

Прычына пажару высвятляецца. Ферма не была электрыфікаваная, паведаміла інспектар групы прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мядзельскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ірына Карапецян**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Шукаюць сумку, якую згубілі на “Фестывальным”

МАЛАДЗЕЧНА

30 мая на прыпынку згубілі чорную сумку. На ёй быў надпіс “UMBRO”. Унутры было адзенне, пашпарт, студэнцкі білет, банкаўская картка “Беларусбанка” на імя **Бабровіча А. М.**, а таксама мабільны тэлефон у шэрым корпусе “ZTE-BIADE-L-3”.

Калі вы знайшлі гэтыя рэчы, просім патэлефанаваць на нумар **(8029) 779-63-32** ці **140-64-39**.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага АУСТ.**







Фота thekharkivtimes.com.

Супраць інтарэсаў службы чыноўнік здзейсніў шэраг асабліва цяжкіх злачынстваў.

# Былы намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама нанёс шкоды на 700 мільёнаў

ВАЛОЖЫН

**Следчыя завяршылі расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога намесніка старшыні Валожынскага райвыканкама.**

Ён ад ліпеня 2010 года да лістапада 2013 здзейсніў шэраг асабліва цяжкіх злачынстваў супраць інтарэсаў службы.

– Кіраўнік неаднаразова прымаў ад прадстаўнікоў розных камерцыйных арганізацый узнагароджанне: грошы і таварна-матэрыяльныя каштоўнасці. Рабіў гэта за лабіраванне іх інтарэсаў, звязаных з ажыццяўленнем камерцыйнай дзейнасці і перавагай перад іншымі суб'ектамі гаспадарання ў заключэнні дамоў падраду на выкананне будаўнічых работ на аб'ектах у раёне, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Знайшлі дзевяць фактаў супрацьпраўнай дзейнасці. Шкода за названы перыяд склала каля 700 мільёнаў рублёў.

Абвінавачанне былому кіраўніку прад'явілі за атрыманне хабару і перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў. Ён знаходзіцца пад вартай. Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Вілейшчыне непаўнагадовы “змагаўся” з плотам – які прысуд

ВІЛЕЙКА

Уступіў у законную сілу прысуд у дачыненні да 17-гадовага жыхара Вілейшчыны. Крымінальную справу па абвінавачанні непаўнагадовага суд Вілейскага раёна разгледзеў 17 мая.

Здарэнне адбылося пасля 23 гадзін 12 лютага ў вёсцы Ерхі Крывасельскага сельсавета. Хлопец у нецвярозым стане у прысутнасці іншых біў нагамі па жалезабетонным плоце ля жылога дома. У выніку пашкодзіў пяць верхніх секцый агароджы. Прычыніў ён пацярпелай шкоду на суму 800 тысяч рублёў. Маці непаўнагадовага ўсё кампенсавала.

Раней несудзімы хлопец вінаватым сябе прызнаў цалкам, у зробленым раскаяўся.

– Суд прызнаў яго вінаватым у наўмысных дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак, выказваюць відавочную непавагу да грамадства і суправаджаюцца пашкоджаннем чужой маёмасці – хуліганстве, – паведаміла вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна **Таццяна Ткачова**. – Прымяніў да яго прымусовыя меры выхаваўчага характару: растлумачылі непаўналетняму наступствы паўторнага здзяйснення злачынстваў, прадугледжаных Крымінальным кодэксам Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як не трапіць у міліцыю за самыя распаўсюджаныя наркотыкі

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 1 чэрвеня на тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага РАУС працуе спецыяльная праграма “Мак”.

У яе межах праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на знішчэнне пасеваў маку і канапель, а вінаватых прыцягваюць да адказнасці. Асноўны від наркотыку ў Маладзечне і раёне – канопля і мак.

За незаконны пасеў, вырошчванне маку і канапель без мэты збыту, прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць і пакаранне – штраф да дваццаці базавых велічынь (4,2 мільёна рублёў).

З мэтай збыту прадугледжваецца крымінальную адказнасць і пакаранне – пазбаўленне волі да трох гадоў.

Продаж галовак маку, канапель – цяжкае злачынства і прадугледжвае крымінальную адказнасць і пазбаўленне волі ад пяці да васьмі гадоў.

Знішчайце расліну на сваіх участках, як і іншае пустазелле. Калі вам што-небудзь вядома пра збыт, захоўванне, выраб наркатычных сродкаў, тэлефануйце па нумарах: **(80176) 77-19-11**, **(8029) 773-39-15**, **(8044) 786-31-35**. Ананімнасць гарантуем.

**Дзмітры СУХОЦКІ, начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС.**

# Ад гумару да ваеннай драмы

## Тры кнігі прэзентаваў віляйчанін

ВІЛЕЙКА

**Прэзентацыя адбылася ў чытальнай зале раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік.**


Фота забяспечана раённай цэнтральнай бібліятэкай імя Ганны Новік.

Спявае Уладзімір Цанунін.

Толькі перад Новым годам **Барыс Манцэвіч** знаёміў са сваёй першай кнігай зборнікам вершаў “Эстафета”. А 26 мая прадставіў адразу тры: кнігу гумару “І смех, і грэх”, “Перажытае і пачутае” і “Партызанскі доктар у нямецкім шпіталі”.

Апошняя прысвечаная вілейскаму доктару **Івану Волаху**, напісаная на аснове яго ўспамінаў.

– Дзве гадзіны прайшлі на адным дыханні: так было цікава, – расказала загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі **Людміла Тонкавіч**. – Знаёміліся з кнігамі. Чыталі вершы, лісты аўтару ад Ганны Новік, нават эпіграму, якую **Віктар Кажура** напісаў на гумарыстычны верш Барыса Манцэвіча. Гучалі песні ў выкананні **Уладзіміра Цануніна**, і сам Барыс Флоравіч заспяваў.

Старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава** падзялілася ўспамінамі пра Івана Волаха. Дырэктар музея **Сяргей Ганчар** казаў, што Барыс Манцэвіч – жывая энцыклапедыя жыцця, настолькі цікавы чалавек і яго лёс.

Завітаў на прэзентацыю вілейскі кампазітар і выканаўца **Аляксандр Высоцкі**.

– Аўтар падарыў яму кнігі. І спадзяёмся, што з’явяцца песні на вершы Барыса Манцэвіча, – кажа Людміла Тонкавіч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка “РГ”.**
**Барыс Манцэвіч** нарадзіўся ў 1933 годзе ў сям’і беларускіх настаўнікаў на Мёршчыне. Працаваў на розных журналісцкіх пасадах у вілейскай і бярэзінскай раённых газетах. Жыве ў Вілейцы.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Беларусы і немцы дзяліліся экалагічным досведам

ВІЛЕЙКА

**Ад 18 да 25 мая ў дзіцячым цэнтры “Надзея” праходзіў 17-ы тыдзень “Экалогія без межаў”.**

Больш за 60 удзельнікаў з Беларусі і Германіі абмеркавалі актуальнасць наступстваў катастрофы на ЧАЭС праз 30 год і развіццё альтэрнатыўнай энергетыкі ў Беларусі. Прыехалі з Германіі прадстаўнікі арганізацый “Менерарбайт Вестфаліі” і “Сацыяльнай служба евангелічных мужчын” з горада Шверте.

– Яны даўно падтрымліваюць праект “Надзея” і надаюць экалогіі вялікую ўвагу, – кажа вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю цэнтра “Надзея” **Таццяна Майсак**.

Удзельнікі пабачылі, як развіваюць альтэрнатыўную энергетыку ў “Надзеі”.

Падчас тыдня арганізавалі багата паездак. Наведалі парк Дружбы народаў у Мінску і ўсклалі кветкі ля памятных камянёў “Ахвярам Чарнобыля” і ля Каменя міру Хірасімы.

Пабачылі, як працуе біягазавы комплекс аграфірмы “Лебедзева” на Маладзечаншчыне, Вілейская ГЭС. На Мядзельшчыне пабывалі ў этнакультурным комплексе “Наносы-Навaселле”, а таксама на вуліцы Дружнай ў вёсцы Стахоўцы. Дамы тут пабудаваныя для людзей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

– Гэта месца асаблівае тым, што немцы ўдзельнічалі ў будаўніцтве дамоў у Дружнай. Пабачылі ветраэнергетычныя ўстаноўкі, парадаваліся, што Беларусь уступіла на шлях развіцця ўзнаўляльнай энергіі, – дзяліцца Таццяна Майсак.

Самае важнае ў мерапрыемствах тыдня для гасцей з Германіі – сустрэчы з дзецьмі. Тыя расказвалі, якія мерапрыемствы праводзяцца ў “Надзеі”, задавалі пытанні. А немцы распавядалі, як гэта робіцца ў іх на радзіме, дзяліліся экалагічным досведам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



# У Вілейцы выберуць уладальніц самых прыгожых кос

ВІЛЕЙКА

**На Вілляніным хутары 19 чэрвеня ў 12 гадзін адбудзецца раённае свята Сёмухі.**

Апроч святочнага абраду, канцэртнай праграмы, выставы-вырабаў народных майстроў пройдзе конкурс “Дзявочая каса – Сёмушная краса”.

Дзяўчаты ў “візітоўцы” прадставяць сябе і сваю касу, паўдзельнічаюць у інтэлектуальным конкурсе і дэфіле.

Журы ацэніць даўжыню валасоў і раскрыццё нацыянальнага каларыту і мясцовых асабліасцяў у стварэнні прычоскі, артыстызм і творчыя здольнасці ўдзельніц. Лепшых чакаюць прызы.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюць дзяўчат узростам ад 14 да 19 год з доўгімі ненарошчанымі валасамі. Заяўкі прымаюць да 15 чэрвеня ў Палацы культуры, кабінет №102.

**Аддзел інфармацыі.**

# Разьбяры сабраліся на Нарачы

МЯДЗЕЛ.

**Сёмае рэгіянальнае свята-конкурс "Разьбы зачараванне" прайшло 29 мая.**

Раней яно некалькі разоў праводзілася ў Мядзеле, а сёлета – у курортным пасёлку Нарач (Купа).

Сабрала свята разьбяроў з Мядзельскага, Маладзечанскага, Астравецкага і іншых раёнаў. Былі яны рознага ўзросту. І юныя, як гуртkоўцы з Крывіцкага раённага цэнтра народных рамёстваў. І ўжо дасведчаныя: сябры Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.

– Свята складалася з дзвюх частак. Адна – афармленне і прадстаўленне твораў майстроў, а другая – конкурсная работа. На працягу трох гадзін удзельнікі стваралі разнастайныя вырабы, – расказвае дырэктар раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Тамара Кардзяёнак**.

Напрыклад, **Юрась Камандзірчык** з к. п. Нарач з дапамогай бензапілы выразаў крумкача, яшчэ праводзіў майстар-клас па вырабе шпакоўні.

Па выніках конкурсу журы вызначыла лаўрэатаў у розных намінацыях. Ім уручылі дыпломы і сувеніры. Створаныя вырабы перадалі ў цэнтр народных рамёстваў у Крывічах.

Конкурс супаў з адкрыццём курортнага сезона. То на Нарачы сабралася яшчэ шмат майстроў іншых накірункаў, якія вучылі ахвотных падчас майстар-класаў.

Было шэсць здраўніц, якія прэзентавалі свае ўстановы, прапаноўвалі пачастункі. Наладзілі паказ курортнай моды, наведнікі змаглі адпачыць на разнастайных пляцоўках.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# У Вілейцы стартаваў пленэр

ВІЛЕЙКА

**Шосты раённы дзіцячы пленэр імя Нікадзіма Сілівановіча "Ад прадзедаў спакон вякоў..." пачаўся 1 чэрвеня.**

У ім удзельнічаюць навучэнцы ўзорнай выяўленчай студыі "Вясёлка" гімназіі №1 "Логас", гарадской выяўленчай студыі цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, сярэдняй школы №3, Любанскага філіяла школы мастацтваў – агулам каля 30 дзяцей.

Пленэр праходзіць у два этапы.

– На завочным этапе ад 1 да 14 чэрвеня юныя мастакі працуюць над тэмамі: "Прывітанне, лета!", "Каля ракі", "Горад" або "Вёска", "Гістарычная спадчына". Вынікoвай працай стане вялікая графічная кампазіцыя пад назвай "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына...", прысвечаная знакамітым людзям Вілейшчыны, – расказала навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Яшчэ юныя мастакі будуць працаваць над тэмай "Піліп Орлік – гетман і аўтар першай Канстытуцыі Украіны". Яе прапанавала Мінскае гарадское аб'яднанне украінцаў "Запавіт".

Ад 15 да 17 чэрвеня пройдзе вочная частка пленэра. Дзеці наведаюць вёску Цынцавічы, радзіму мастака-мазаіста акадэміка жывапісу Нікадзіма Сілівановіча, і музей-сядзібу Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі.

Вынікам стане выстава творчых прац. Адкрыецца яна 17 чэрвеня ў выставачнай зале імя Сілівановіча. Пачатак – у 17 гадзін, паведаміла Надзея Аўдзей.

Аддзел інфармацыі.

### Фестываль "Адна зямля" адбудзецца 2 ліпеня

АСТРАВЕЦ

Сёлетні фестываль "Адна зямля" адбудзецца ў Астраўцы 2 ліпеня.

Пра эта расказалі ў Астравецкім аддзеле ідэалогіі, культуры і па справах моладзі.

Эстафету фестывалю перадаў горад Ашмяны ў мінулым годзе.

Падрабязней пра праграму чытайце пазней.

Наталля ТУР.

# Чым будзе здзіўляць сёлета фестываль "Маладзечна-2016"

## Праграма

МАЛАДЗЕЧНА

**Фестываль будзе цягнуцца два дні, 10 і 11 чэрвеня.**




### Першы дзень, 10 чэрвеня

**Канцэртная зала Палаца культуры**

**12:00** – II тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

**Фае Палаца культуры**

**15:00** – творчая прэзентацыя выставы да 75-годдзя народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна.

**Амфітэатр**

**17:00** – III тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні ў суправаджэнні заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

Галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, прафесар Міхаіл Фінберг.

**Амфітэатр**

**21:30** – урачыстае адкрыццё XVI Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2016".

**Узнагароджванне лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.**

"Песенная спадчына Уладзіміра Мулявіна" (да 75-годдзя народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна). Прэм'ера канцэрта заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

Галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, прафесар Міхаіл Фінберг.

Феерверк.

### Другі дзень, 11 чэрвеня

**Канцэртная зала Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў**

**11:00** – "Бліскучыя меласферы беларускіх майстроў". Канцэрт акадэмічнай музыкі творчых калектываў заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

**Мінскі абласны краязнаўчы музей**

**13:00** – "Вобразы мілыя роднага краю". Выстава твораў выяўленчага мастацтва Беларусі (з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея).

**Малая зала Палаца культуры**

**14:00** – паэтычная гасцёўня "Красуй, Беларусь" з удзелам беларускіх паэтаў.

**Амфітэатр**

**15:00** – канцэрт з удзелам выканаўцаў Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва імя Уладзіміра Мулявіна.

**Канцэртная зала Палаца культуры**

**18:00** – "Пясняр" – спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага.

**Чысцінскі сельскі Дом культуры**

**16:00** – "Цудоўныя музычныя фарбы ў родных кутках бацькаўшчыны" Канцэрт песні ў выкананні заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, прафесар Міхаіл Фінберг.

**Амфітэатр**

**21:30** – канцэрт-закрыццё XVI Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2016". Канцэрт сучаснай беларускай песні "Беларусь – крыніца натхнення".

**Дысказала Палаца культуры**

**20:00** – "Беларускія матывы" – дыскатэка з удзелам вядомых дыджэяў Беларусі.

### На працягу двух фестывальных дзён

**10 – 11 чэрвеня**

**Цэнтральная плошча**

**12:00 – 20:00** – "Фестывальная талака" – канцэртная пляцоўка.

**12:00 – 20:00** – "Фестывальная сядзіба" – экспазіцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Гарадскі парк**

**12:00 – 20:00** "Свет дзяцінства" – гульнёва-забаўляльная пляцоўка для дзяцей.

**12:00 – 20:00** – "Мастацкі пленэр".

**11 чэрвеня**

**Цэнтральная плошча**

**18:00 – 20:00** – маладзевая пляцоўка "Арт-Старт".

По інфармацыі Палаца культуры.

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна**
могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.
**☎ 166**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by **ТРАНСПАРТ**
Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана — дзве газеты!
Вечерний Бобруйск

## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

- Аўдзі-80 В3, 1990 г.в, 1,8 бензін, чырвоны, добры стан, 40 000 000 руб. Радашкавічы Маладзечанскага р-на. Т. (8-029) 7764437.
- ВАЗ-2106, нядорага. Т. (8-029) 5753932.*
- ВАЗ-21063. Цана пры аглядзе. Т. (8-029) 2521100.
- ВАЗ-21112, 2007 г.в, 1,5 інжэктар, серабрысты, універсал, 23 000 000 руб, торг. Т. (8-044) 7830571.*
- ЗІЛ-130, дызель Д245, самазвал-сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.*
- Лексус GX-470, 2003 г.в., аб'ём 4,7л бензін, шэры металік. Т. (8-029) 3425776.
- Лексус RX-350, 2009 г.в, аб'ём 3,5 л, сіні металік. Т. (8-029) 3509883.
- Опель-Амега, 1991 г.в, 2,3 TДI; Мазда-626 купэ, 1987 г.в, па запчастках. Т. (8-033) 3363343.*
- ФВ Б-2, 1987 г.в, 1,6Д, універсал, бардо. Т. Вэлком (8-029) 3463652.
- Фіят-Брава, 1,6Б, добры стан, 27 000 000 руб. Т. (8-029) 6696926.*
- Фольксваген-Шаран, 2001 г.в., 1,9 TДI, не біты, не фарбаваны, адзін гаспадар, 120 млн. Т. (8-029) 1925603, (8-033) 3352910.*
- Форд-Мандэа 3, 2002 г.в, добры стан. Т. (8-044) 5498799, (8-01771) 53758.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. ЧСУП "АРТАлексСэрвіс" УНП 690639270.*
- З/часткі б/к да Опеля-Астры G, Вектры В, Вектры С, Зафіры А.Т. Ёсць амаль усё. МТС (8-029) 8558707.*
- З/часткі б/к да ФВ-Пасат В-5, 1998 г.в, 1,9 TДI, 1,8 турбабензін. Т. МТС (8-033) 3425134.*
- З/часткі б/к да Фіята-Брава, 1999 г.в, Уліс, 1999 г.в. Ёсць амаль усё. Т. МТС (8-029) 5063202.*
- Запчасткі да ЗІЛ-130. Т. (8-029) 3999382.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

**КУПЛЮ**

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

**ПАСЛУГІ**

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- Замена ГРМ, сцепления
- Восстановление суппортов
- Ремонт ходовой, развал
- Развал-схождение
- Ремонт глушителя
- Шиномонтаж, аргон
- ТО кондиционеров

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

- **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
- **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
- **Проверка и регулировка CO, CH;**
- **Заправка и ремонт кондиционеров;**
- **Замена ГРМ;**
- **Диагностика и ремонт подвески;**
- **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83,** МТС **(8-029) 779-93-27.**
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Итъ» УНП 690603198

**Тэлефонныя коды**

| гарадоў рэгіёну: | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 1-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае. Т. (8-029)\0 6730360.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы на Зеніцa,1 паверх 5-павярховага панэльнага дома. Т. (8-029) 2572419.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 20165, (8-025) 7417101.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, другі паверх, цэгла. Т. (8-01771) 28073, (8-033) 6041497.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, атынкаваны, падвал, аглядная яма. Т. (8-029) 6068706.*
- Дача ў СТ "Агеньчык" (3,5 км ад в. Краснае), водаправод, электрычнасць. Нядорага. Т. (8-0176) 548035, (8-029) 9751135.
- Дача ў Турэц-Баярах СТ "Алмаз 2000", цагляны 1-павярховы дом, два жылыя пакоі, кухня, санвузел на вуліцы. Прыбудова з блокаў, 6х6. Калодзеж з рабочай вадой. Лес, рака побач. Т. (8-025) 9078324.
- Дом драўляны на вываз, 8х5 м; прыбудова, 5х5 м. Танна. Смаргонскі р-н. Т. (8-029) 1142181, (8-029) 1384161.*
- Дом з участкам у в. Насілава. Т (8-029) 2697533.*
- Дом з усімі выгодамі, 0,25, сад, лазня, в. Чылей Мядзельскага р-на. Т. Вэлком (8-029) 3151607.
- Дом ў в. Асанава Маладзечанскага р-на, 104 кв.м, 25 сотак, газ, 1 паверх, гаспадарчыя пабудовы, гараж, Т. (8-029) 6103459.*
- Дом у в. Куранец. Больш за 100 кв.м, зямельны участак 40 сотак. 90 000 000 руб. Торг. Т. (8-029) 5609402, (8-029) 5609398.
- Дом у в. Снежкава, 70% гатоўнасці, 25 сотак, побач лес. Т. МТС (8-029) 5865055.*
- Дом у в. Цынцавічы Любанскага с/с, можна на дачу. Ёсць сад, агарод, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-01771) 56010, (8-029) 5644936.*
- Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*
- Дом у Маладзечне, 70/53/30, газ, выгоды, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Участак 10 сотак у в. Снежкава, падмурак пад дом 8х8 м, падмурак пад лазню 4х9 м. Можна з лазняй 4х9 м. Т. МТС (8-029) 5865055.*

**ЗДАМ**

- Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х8. Т. (8-029) 5753932.*

**АККУМУЛЯТОРЫ**
для автомобилей, мотоциклов, источников питания, сигнализаций, лодок, детских машинок

***ПРОДАЖА, ЗАРЯДКА аккумуляторов, ДИАГНОСТИКА с выдачей распечатки и справки***

- моторные и индустриальные масла
- смазки
- реагент AdBlue разливной
- шины
- сварочная проволока
- шпатлёвка
- антифризы
- запчасти к иномаркам

***МАСЛО ПОЛУСИНТЕТИЧЕСКОЕ 10W40 от 35 000 рублей за 1 литр***

Тел. **(0176) 58-12-48, (029) 63-63-166, (033) 323-02-17**
Принимаем «КАРТУ ПАКУПАК»
Возможна **ДОСТАВКА** по региону ООО «Батрикс» УНП 691893243

## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

**ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА**

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

- БУС, да 1 тоны, нядорага. Т. МТС (8-029) 5526667.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выходных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аддзелка дамоў сайдынгам. Вадасцёкавыя сістэмы (пластык). Іншыя аддзелачныя работы. Магчыма растэрміноўка. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1022232.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Андулін. Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. Вэлком (8-029) 1287878, (8-029) 7860317.*
- Выканаю **УКЛАДКУ ПЛІТКІ і АБЛІЦОЎКУ СЦЕН**. Выраўноўванне сцен і падлогі пад плітку. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катароў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дамы пад ключ, каштарысныя разлікі. ІП Радзько М.С. УНП 691180180. Т. (8-029) 9991011, (8-025) 5333448.
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДАХАВЫЯ, ЗВАРНЫЯ** работы любой складанасці. ІП Радзько М.С. УНП 691180180. Т. (8-029) 9991011, (8-025) 5333448.*
- Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*
- Дэмантаж (хлявы, перагародкі, сцяжкі). Дробны рамонт. Вываз смецця (бытавое, будаўнічае). Паслугі грузчыка. Пакос травы. Выезд на раён. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*
- Забяру з участка металалом. Разгледжу варыянты. Т. МТС (8-029) 5526667.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

**Прыём дробных аб'яў**

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Праведнік свету Мікалай Кісялёў

*Працяг. Пачатак у №23*

**Працяг серыі матэрыялаў гісторыка Аляксандра Плавінскага. У папярэдняй частцы (№№11, 13, 14) расказвалася аб лёсе Даўгінава і яго насельнікаў. Аб масавым знішчэнні яўрэяў – Галакосце. Тэму працягваюць малавядомыя раней факты з лёсу Праведніка свету Мікалая Кісялёва.**

Кісялёў перайшоў да каваля Юзіка Бермана, якога ён завербаваў трохі раней. Новы гаспадар быў яўрэем, але, каб ажаніцца з рускай дзяўчынай, у 1935 годзе прыняў праваслаўе. Ён дапамагаў Кісялёву ў падпольнай барацьбе ўвесь час, аж пакуль той не сышоў у партызанскі атрад.

У 1941 годзе праз Кізіна падпольная арганізацыя ўстанавіла сувязь з партызанскім атрадам пад камандаваннем **Асташонка**. У снежні 1941 гады Саламянскі звязаўся з партызанамі, у якія знаходзіліся ў Куранецкім і Мядзельскім раёнах, у тым ліку з атрадам "Мсціўца". Затым з гэтым фарміраваннем Кісялёў падтрымліваў сувязь асабіста. У гэтыя атрады перадавалі звесткі аб працы́ніку, колькасці і размяшчэнні войскаў у нямецкіх гарнізонах, іх узбраенні, а таксама аб аперацыях супраць партызан і мірнага насельніцтва, якія рыхтаваліся.

Пастаянная сувязь дапамагала выкрываць нямецкіх шпіёнаў, якія працавалі як на тэрыторыі гарнізонаў, так і ў партызанскіх зонах. Так, напрыклад, былі выкрыты **Кудрашоў**, **Кулак**, **Юшка** і іншыя найміты, якія перадавалі акупантам звесткі аб партызанах.

Наступным сур'ёзным поспехам у барацьбе стаў зрыў адправкі моладзі для працы ў Германіі. Першапачаткова ў ходзе правядзення гэтай кампаніі стаўку рабілі на добраахвотную мабілізацыю. І даволі паспяхова! З ліку местачковай моладзі запісалася звыш 250 юнакоў і дзяўчат.

Тады Мікалай хутка сабраў паплечнікаў і паставіў перад імі задачу: у што б там ні стала сарваць план мабілізацыі! У выніку актыўнай растлумачальнай работы з боку падпольшчыкаў усе да аднаго добраахвотнікі на розных падставах выпісаліся са спісаў. Больш за тое, за ўвесь час акупацыі ніхто па ўласнай волі не паехаў з мястэчка на працу ў Германію.

Дзякуючы намаганням Кісялёва моладзь пераходзіла ў розныя партызанскія атрады. Праз яго людзей у атрады "Барацьба", "Мсціўца", Асташонка, "Баці" былі адпраўлены 37 чалавек са зброяй і няўзброеныя.

Не засталіся па-за ўвагай патрыёта і планы акупантаў на месцах. Ён арганізаваў зрыў лесанарыхтовак. Тады паліцаі ў шаленстве сталі палкамі выганяць сялян у лес. Але істотных вынікаў гэта не прынесла. Народ на досвітку з піламі і сякерамі сыходзіў у лес, але працаваць не спяшаўся. Людзі сядзелі ля вогнішчаў і вялі гутаркі. У якасці суразмоўцаў Кісялёў падсылаў да іх праверaных камсамольцаў, якія праводзілі з сялянамі тлумачальныя гутаркі.

Зрыў паставак прадуктаў мясцовымі жыхарамі акупацыйным уладам быў адной з асноўных задач партызанскіх атрадаў. Падключыліся да вырашэння дадзенай праблемы і ільянскія падпольшчыкі. У іх арсенале не было настолькі радыкальных метадаў працы, як у партызан. Падпольшчыкі вучылі мясцовых жыхароў, як мінімізаваць колькасць паставак прадуктаў. Сяляне для немцаў везлі самых худых парсючкоў, а добрых рэзалі сабе. Нямецкія планы на нарыхтоўку сытых і тоўстых свіней рушыліся.

Аналагічна вырашалася пытанне і па памяншэнні паставак малака. Сялян пераконвалі заніжаць паказчыкі надояў. Для гэтага былі распрацаваны простыя, але безадмоўныя механізмы. Першапачаткова яны выдойвалі ў кароў малако да паловы, затым прыводзілі нямецкую камісію і пры ёй дадойвалі іх. Чыноўнікі фіксавалі вынікі, згодна з ім устанаўліваліся нормы паставак малака. Але і гэтыя нормы і там і тут сяляне не выконвалі на розных падставах.

Што тычыцца зрыву збожжанарыхтовак, то сяляне масава хавалі хлеб і затым спасылаліся на неўраджай і дрэнную зямлю.

Фота забяспечанае Аляксандрам ПЛАВІНСКІМ.

**Спіс групы падпольшчыкаў Ільі, група "Перамога"**

Актыўнымі памочнікамі ў правядзенні гэтых мерапрыемстваў былі былыя ваеннапалонныя і мясцовыя жыхары: **В. Рудніцкі**, **В. Зінкевіч**, **Жураўлёў**, **І. Рудніцкі**, **М. Рудніцкі**, **Юзік Берман**, **Ціхан Жураўлёў** і яго бацька, **Юзік Рудніцкі**, яго брат і шмат іншых.

У партызанскія атрады было адпраўлена некалькі груп ад 5 да 15 чалавек кожная. У сакавіку 1942 года першая група – пяць чалавек з вёсак Казлы, Каўшэвічы, Забор'е, Шышкі – са станковым кулямётам была адпраўлена ў атрад "Барацьба".

Другая часткова ўзброеная група з мястэчка Ілья і навакольных хутароў – 13 чалавек на чале з Кісялёвым – у сакавіку 1942 года накіравалася ў атрад "Мсціўца". Трэцяя група колькасцю дзевяць чалавек на чале з Саламянскім 17 верасня 1942 года са зброяй сышла ў атрад "Мсцівец". Чацвертая, чатыры чалавекі са зброяй на чале з **Цімафеевым**, – у брыгаду імя Фрунзе. Акрамя таго, на працягу гэтага перыяду нямала людзей накіроўваліся па 2-3 чалавекі ў загадзя назваўныя месцы...

Чаму Кісялёў пакінуў падпольную працу? З павышэннем актыўнасці і пашырэннем поля дзейнасці Кісялёў звярнуў на сябе ўвагу нямецкіх уладаў і выклікаў у іх абгрунтаваныя падазрэнні. Пра гэта ў 20-х чыслах сакавіка 1942 года яго папярэдзіў паліцэйскі **Рудніцкі**, бацька якога пры Саветах працаваў на тэлеграфе, а дзядзька – стары партызан – быў старшынёй сельпо. Рудніцкі прыбег ноччу да Мікалая і сказаў, каб той заўтра ж сыходзіў у лес, інакш немцы арыштуюць яго.

Ускладушы кіраўніцтва падпольнай арганізацыяй на **Аляксандра Іванавіча Цімафеева**, праінструктаваўшы яго і камсорга **В. Зінкевіча**, да вечара наступнага дня Кісялёў з былым ваеннапалонным **Ярошовым** сышоў у атрад Асташонка. Але сувязь Кісялёва з Ільянскай падпольнай арганізацыяй на гэтым не перапынілася, ён даваў указанні таварышам аж да канца жніўня 1942 года.

Усяго ў складзе падпольнага фарміравання было 27 чалавек, 16 з якіх уступілі ў яго шэрагі пасля выхаду Кісялёва ў партызанскі атрад.

### Партызанская барацьба

У партызанскім атрадзе Асташонка лёс зноў звёў Кісялёва з яўрэямі. Па распараджэнні падпольнага гаркама партыі Мінска ў атрадзе знаходзілася група з 14 камуністаў – бежанцаў з мінскага гета. Патрыёту туды вывелі 12 сакавіка 1942 года для фарміравання атрада і барацьбы з акупантамі. Але гэта група не ўзрадавала камандзіра атрада. Пасля гутаркі з новым папаўненнем Асташонак застаўся вельмі незадаволены, што яму даслалі адных яўрэяў.

Па накіраванні ваеннага савета праз дзень у атрад прыбыла з Мінска яшчэ адна група. Характэрна, што ў ёй была усім малады дзяўчына **Ганна Іванаўна Сіроткава**, беларуска. Яна нарадзілася ў 1923 годзе і толькі-толькі паспела скончыць дзесяцігодку, як пачалася вайна.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

10 ЧЭРВЕНЯ

**80 гадоў** з дня нараджэння Вячаслава Кебіча (1936 г., в. Канюшаўшчына Валожынскага раёна), былога старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

11 ЧЭРВЕНЯ

**90 гадоў** з дня нараджэння (1926) Дзмітрыя Сямёнава, літаратара, дзеяча эміграцыі ў ЗША. Вядомы сваім "Дзённікам: 1943–1947". Нарадзіўся ў Мінску ў сям'і інтэлігентаў. 1 студзеня 1943 года пачаў весці дзённік, куды сістэматычна запісваў тагачасныя падзеі: апісваў вучобу, прызнанні ў каханні, паходы ў кіно, сістэматычныя аблавы паліцыі, апісваў нават, чым харчаваўся ў той галодны час. Вачыма падлетка можна ўбачыць Мінск пад нямецкай акупацыяй. Погляд звычайнага юнака, які ў 1944 годзе апынуўся на эміграцыі, у тым ліку апісаўшы і эвакуацыю экспанатаў музея з Мінска ў Сілезію. Далей ён дакладна натуе і жыццё ў Германіі: перад капітуляцыяй, першыя паваенныя гады. Адтуль выехаў у ЗША. Памёр у 1982 годзе.

12 ЧЭРВЕНЯ

**1911 год.** Нарадзіўся Мікола Панькоў, беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, журналіст, бібліяфіл, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Браў удзел у з'ездзе беларускай эміграцыі ў 1947, быў сябрам Рады БНР, узначальваў Саюз беларускіх журналістаў. Заснаваў Беларускае інфармацыйнае бюро і быў яго кіраўніком.

16 ЧЭРВЕНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння Дзмітрыя Лукаса (1911 – 1979, Свянцяны Віленскай губерні), кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**1931 год.** У Вільні з-за пераследу польскімі ўладамі застрэліўся Францішак Рамейка, беларускі каталіцкі святар-адраджэнец, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся 11 ліпеня 1885 года ў вёсцы Нецькі, цяпер у Мядзельскім раёне. У лістападзе 1903 года вытрымаў іспыт на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Маскоўскай навучальнай акругі. Скончыў духоўную каталіцкую семінарыю. У 1928 годзе за сваю дзейнасць па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў царкве і паўсядзённым жыцці парафіян быў часова пазбаўлены права займацца душпастырскай дзейнасцю. Гэта адбілася на яго псіхічным стане. У 1929 –1931 гадах – святар у Кемелішкаўскім касцёле нараджэння Найсвяцейшай дзевы Марыі. 16 чэрвеня 1931 Францішак Рамейка прыехаў у Вільню ў госці да Адама Станкевіча. Не дачакаўшыся таго, застрэліўся ў яго кабінеце.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**




Маладзечанка Наталля Сяргей любіць свой матацыкл: "Сёння так рада была бачыць свой байк, што аж пацалавала яго". Фота Настассі РОЎДЫ.

# Сын байкеркі: "Мам, ты ў мяне такая крутая"

## Як маладзечанка ішла да сваёй мары – ездзіць на ўласным матацыкле

**Маладзечанка Наталля Сяргей вось ужо два гады катаецца на ўласным матацыкле. Яе пракацілі з ветрыкам у пяць гадоў, і з таго часу ёй хацелася ездзіць самой, хоць правы на кіраванне атрымала толькі ў 39. Гаворым пра навучанне і першыя паездкі, прыцірку на дарозе і размовы з бацькамі. Перажываем страхі і адчуваем мурашак, якія бягуць ад эйфарыі, калі Наталля перадае самыя моцныя ўражанні.**

На сустрэчу Наталля прыязджае ў рваных джынсах. На вуліцы цёпла, градусаў 18. Наталля кажа, што "ў скуры" сёння было б занадта горача. У мотаэкіпіроўцы камфортна ехаць, але ў кавярні доўга не выседзіш.

Мы ў кавярні. Яна замаўляе латэ і ваду. Скардзіцца, што складана прывучыць сябе піць яе ўвесь час: сілы волі хапае на многае, але не на гэта. Бацька здолеў выхаваць у ёй мэтанакіраванасць. З ім Наталлі было цікава: ён круціў гайкі, і яна побач круціла. І вось праз шмат гадоў урэшце ездзіць на сваім матацыкле. Заўважае, што байк – не для працы, а для адпачынку. Перш чым ехаць, яго трэба хвілін 5-10 прагравацць. Яго ж уладальніца ў будні звычайна спяшаецца і не паспявае, таму выручае аўтамабіль.

– Вырашыла здаць на правы на аўто, калі была ў дэкрэце. Мне так хацелася ездзіць! Я клала сына спаць, садзілася ў машыну і ўяўляла, як еду. Здала з першага разу, у 2002 годзе. Мне інструктар казаў: "Наташа, ідзі далей вучыцца, будзеш у нас працаваць", – гаворыць наша гераіня.

І сапраўды, усё магло б атрымацца, калі б яна захацела. Наталля тэхнікі не баіцца. Кажа, калі б пасадзілі кіраваць фурай, справілася б. Але тэхніка – не адзінае захапленне ў яе жыцці. Больш за 20 гадоў Наталля працуе цырульніцай, прафесію сваю любіць. Байкеры часцяком прыязджаюць да яе стрыгчыся.

### Хлопцы збіраліся паглядзець, як Наталля ездзіць

Хоць правы на кіраванне матацыклам у Наталлі з'явіліся толькі ў 39, яна ездзіла і раней. Яшчэ па маладосці, у 90-я, на байку будучага мужа. Разам з сябрамі раз'язджалі па Беларусі, адпачывалі на азёрах.

Потым гэта ўсё забылася-закінулася, байк прадаўся, бо трэба былі грошы на вяселле, але жаданне ездзіць не знікла. Першыя заняткі па кіраванні матацыклам Наталля добра памятае.

– Выкацілі стары, заезджаны матацыкл "Мінск". Сама завесці яго не змагла, прасіла дапамогі, – пачынае распавядаць Наталля. – Затое як села – усё адразу ўзгадала, быццам учора ездзіла. Першы час правая нага так хадуном хадзіла, што я яе да бака прыцiскала. Хвалявалася, начамі не спала. Калі раніцай прыязджала вучыцца, вакол хлопцы збіраліся на мяне паглядзець, як на цуд нейкі. Неяк прыйшла, а мне інструктар кажа: "Давай у гэту суботу будзеш здаваць". Я разгубілася, васьмёрку круціць і ўсё астатняе – не проста. Трэба трымаць раўнавагу, глядзець не на кола матацыкла, а на некалькі крокаў наперад. У суботу прыйшла здаваць. Разам са мной разлічвалі атрымаць правы яшчэ некалькі маладых хлопцаў. Уяўляеце, яны не здалі, а я здала. Да мяне падышоў інспектар, што прымаў экзамен, пацiснуў руку і сказаў: "Малайчына".

### Матацыкл прыплыў з Тэхаса

Выбраць матацыкл Наталлі дапамог яе даўні сябар **Жэня**, з якім знаёмая са школьнай парты.

– Мы з ім разам ездзілі ў 90-я. У нас з маім хлопцам была "Ява", у яго – "Панонія". Уяўляеце, якi разгон у "Явы", а які – у "Паноніі"? Мы даязджалі да Нарачы, а ён быў яшчэ на паўдарозе, – узгадвае Наталля свае прыгоды.

Яны з Жэнем знайшлі матацыкл на амерыканскім сайце. Байк плыў з Тэхаса на пароме два з паловай месяцы. Наталля ўсю зіму нікому не гаварыла пра пакупку, на якую некалькі гадоў збірала грошы. Амуніцыя – каля 1 000 долараў. Байк – амаль 4 000 долараў. Ён не новы, выпушчаны напрыканцы 90-х, але папярэднія гаспадары яго так песцілі, што той прыплыў з этыкеткамі. Наталля таксама даглядае, таму байк і сёння выглядае як новы.

– Летась на станцы





побач стаялі аўто і матацыкл. Я падыходзіла да машыны і размаўляла з ёй: "Не крыўдуй, калі ласка, я сёння на матацыкле паеду, мне вельмі хочацца". Шкадую сваю тэхніку. Сёння так рада была бачыць свой байк, што аж пацалавала яго, – прызнаецца гераіня.

### Год не гаварыла маці пра байк

– Упершыню мяне пасадзілі на байк у пяць гадоў. Тата. Ён адрамантаваў матацыкл і вырашыў мяне "ўціхую" пракаціць. Спытаўся: "Дачушка, паедзеш?" Я адказала: "Паеду". Спачатку каталіся па ваколіцах. Потым ён вырашыў выехаць на трасу. Ну, а там даў газу так, што замест лесу былі бачныя чорныя палосы. Ён мне: "Не страшна?" Я яму: "Не страшна". "Хутчэй?" "Хутчэй". За намі гналася міліцыя, тату далі штраф. Затое паездка запомнілася на ўсё жыццё, – упэўнівае Наталля.

Калі бацька, **Вячаслаў Віктаравіч**, даведаўся, што дачка здала на правы і набыла матацыкл, заганарыўся і спытаўся, ці дасць яна яму пакатацца. Не дасць: занадта раўніва ставіцца да свайго двухколага сябра. Але пракаціць гатовая, толькі яшчэ патрэніруецца.

Маці, **Раісе Аляксандраўне**, пра сваю доўгачаканую пакупку Наталля распавяла толькі праз год.

– Уяўляеце, у 39 гадоў я баялася сказаць маці, што езджу на байку. Такое строгае ў мяне выхаванне, – шчыра распавядае гераіня. – У нас планаваўся парад, і я вырашыла запрасіць яе і сказаць усё, як ёсць. Прыйшла да яе: "Мам, я хачу запрасіць цябе да нас на парад". Яна: "Дык а ты з кімсьці паедзеш? На машыне ці як?" "Мам, я хачу табе сказаць праўду. Я паеду на матацыкле". "Сама? А хто табе дасць?" "Мам, я здала на правы і буду ехаць на сваім матацыкле". Вы б бачылі маю маму… Яна скакала ад радасці! "У цябе ёсць матацыкл! Чаму ты мне не сказала?" У дзень парада да калоны ляціць мая маці са шлемам. Думала, што я яе павязу. Колькі калона ехала, столькі яна ішла за намі следам. Яна была такая шчаслівая!

Ад пачатку ведаў пра пакупку сын **Уладзіслаў**, якому цяпер 15 гадоў. Яму байк таксама па душы, толькі не часта выпадае на ім ездзіць.

– Важу яго толькі па горадзе і толькі з мінулага года. Ён, натуральна, ад язды ў захапленні: "Мамуля, ты ў мяне самая лепшая". Летась, калі адвезла яго на 1 верасня ў школу, у яго выступілі слёзы радасці: "Мам, ты ў мяне такая крутая". Ён цяпер не можа дачакацца, калі я зноў пачну яго вазіць хаця б у школу. Калі ён раптам таксама захоча кіраваць матацыклам, я буду толькі рада. Не спартыўным матацыклам, а больш цяжкім, як у мяне. Гэта больш бяспечна, – кажа Наталля.

### Нечаканасці на дарозе

З першай паездкі па горадзе нічога добрага не выйшла, але для Наталлі гэта нагода ўсміхнуцца. Доўгі час пасля таго, як атрымала правы на кіраванне матацыклам, разам з Жэнем каталася за горадам. Трэба было перабірацца ў горад.

– І вось Т-падобнае скрыжаванне. Закон подласці: аўтамабілі з усіх бакоў. Нам трэба было прапускаць, але бакавыя машыны былі далекавата, і Жэня паспеў праскочыць. Мне давялося тармазіць, я забыла пераключыць перадачу, і матацыкл заглух. Шукаю нагой нейтральную і не магу знайсці. Жэня назірае за гэтай карцінай. Я з горам напалову знайшла і крычу яму: "Жэня, першая – уніз ці ўверх?" Машын ужо назбіралася шмат, усе стаяць, чакаюць. Ён хапаецца за галаву, кідае свой матацыкл, падбягае, бачыць мае шалёныя вочы і кажа: "Наташа, вочы баяцца, рукі робяць. Першая – уніз". Я прачнулася: "А, ну добра". Ад'ехалі, спыніліся. Ён: "Наташа, ты вось тут пад мостам пачакай, я зараз хуценька па справах з'езджу і мы яшчэ круг вакол горада зробім", – распавядае гераіня.

Першы час Наталля на дарозе ўвогуле ціснулася да абочыны. Ехала з хуткасцю 40-50 кіламетраў. Гэта цяпер яна едзе ў патоку, каб нікому не замінаць. На думку Наталлі, чаго не хапае на беларускіх дарогах, дык гэта павагі. Яна не выгароджвае матацыклістаў, а звяртаецца да ўсіх: і да байкераў, і да пешаходаў, і да кіроўцаў аўто.

– Пяць гадзін вечара, час пробак, еду. Я магла б на матацыкле паміж машын праціснуцца наперад, але рухалася, як належыць, у калоне. Да святлафора заставалася адлегласць як на дзве машыны. Гарыць чырвонае святло, не бачу сэнсу пад'язджаць. Думаю: загарыцца зялёнае – пад'еду. На матацыкле гэта хутка. І тут аўтобус, які за мной стаяў, пасігналіў так, што ледзьве не звалілася з таго матацыкла. Вы ўяўляеце, як сігналіць аўтобус? – узнімае бровы Наталля.

### На першым байкерскім злёце плакала

На злёты Наталля ездзіла яшчэ да таго, як атрымала правы. Альбо на машыне, альбо садзілася з кімсьці на байк. На першы свой злёт у Брэст ехала ззаду на матацыкле.

– На парадзе я плакала ад эйфарыі, ад эмоцый. Вось зараз гавару – і адчуваю, як бягуць мурашкі. Тады сама сабе падумала: я павінна навучыцца, я гэтага хачу, – узрушаецца Наталля.

Цяпер яна наведвае злёты ўжо на сваім матацыкле, жанчынам, якіх там шмат, – бясплатна.

Ёсць пэўныя прывілеі і проста на дарозе. Хоць валасы Наталля хавае, бо аднойчы збіла такі каўтун, што давялося адразаць, камусьці ўсё ж удаецца разгледзець на байку жанчыну. Тады на тварах кіроўцаў з'яўляецца захапленне, усмешкі, часам нават саступаюць дарогу.

### "Нежаночая гэта справа"?

Да стэрэатыпаў пра "жаночае" і "нежаночае" Наталля ставіцца крытычна.

– Хто прыдумаў, што жанчына павінна стаяць каля пліты? Калі жанчына таксама працуе, чаму мужчына не можа гэтага рабіць? Камусьці, канешне, гэта падабаецца, а хтосьці з гэтым змагаецца, – абураецца Наталля.

Яна імкнецца да маладзі, не глядзіць на свой узрост. Часам у яе пытаюцца: "Ты што, да старасці будзеш ездзіць?" Адказвае: "Буду. Жыццё адно". Наталля шкадуе жанчын, у якіх толькі праца і дом. І ўвогуле, не любіць слова "жанчына". Альбо "дзяўчына", альбо "лэдзі", толькі так.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com



НАВІНЫ

## "Смаргонь" і "Ашмяны" прайгралі

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

Восьмы тур чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе не прынёс ачкоў камандам з рэгіёна.

ФК "Смаргонь" 4 чэрвеня ў гасцях прайграў магілёўскаму "Дняпру" 0:4. Смаргонцы ў кожным тайме прапусцілі па два галы.

"Ашмяны" зноў прайгралі. У гасцях 5 чэрвеня саступілі "Баранавічам" 0:1.

"Смаргонь" апусцілася на восьмае месца. На рахунку каманды дзевяць ачкоў. "Ашмяны" з трыма ачкамі займаюць 14-е месца.

## Адбіты пенальці і дубль Ермакова

ВІЛЕЙКА

У чацвертым туры чэмпіянату Мінскай вобласці "Вілія" з Вілейкі 5 чэрвеня прымала "Лівадзію" з Дзяржынска. Гаспадары перамаглі 2:0. Абодва галы ў другім тайме забіў **Арцём Ермакоў.**

У заўзятара "Віліі **Артура Мінчука** ўражанні ад матча засталіся вельмі пазітыўныя:

– Другая запар дамашняя перамога, ды і зноў на нуль захавалі свае вароты. Вялікі дзякуй нашаму варатару **Паўлу Лявошку**. Ён у самым пачатку матча адбіў пенальці – на мой погляд, спрэчны. Малайчына нападаючы **Арцём Ермакоў**, які два разы апынуўся ў патрэбны час у патрэбным месцы. Мог яшчэ і **Максім Чабрыцкі** забіць, ды не раз. Але яму дзіка не шанцавала.

А лепшым на полі Артур назваў абаронцу **Сяргея Дразда:**

– Тое, што рабіў ён з мячом і як ён гэта рабіў, гэта нерэальна крута.

Пасля гэтай перамогі "Вілія" ўзнялася на трэцяе месца ў турнірнай табліцы. Наступны матч каманда з Вілейкі правядзе 12 чэрвеня на выездзе супраць "Хіміка-Беларуськалія".

## Сталі другімі на абласным "Каласку"

МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне прайшлі фінальныя спаборніцтвы па валейболе ў рамках абласной спартакіяды сярод дзяцей і падлеткаў "Каласок".

Каманды гулялі па кругавой сістэме. Прадстаўнікі Мядзельшчыны перамаглі каманды трох раёнаў. Саступілі толькі прадстаўнікам Стаўбцоўскага раёна. У выніку занялі другое месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Выпрабавана на сабе: як я працавала ваўчыхай

МАЛАДЗЕЧНА

**– Ой, там унутры цётачка, можна руку ў пашчу засунуць, – і дзіцячая рука лезе ў пашчу плюшавага ваўка, за якой хаваюся я, журналістка, якая рашылася на вясёлы і вельмі калматы эксперымент.**



Ваўка Вулфі, талісман футбольнага клуба "Іслач", я прыкмеціла даўно, яшчэ на першай дамашняй гульні клуба. Тады ж і пазнаёмілася з заўзятарам каманды **Ігарам**, тым, хто жыве ўнутры гэтага ваўка.

На гульні супраць мазырскай "Славіі" адважылася і папрасілася ў Ігара памяняцца шкурай.

– Значыць, так, – дае каштоўныя ўказанні Ігар. – Распранайцеся! Бо будзе настолькі горача, што любое адзенне будзе лішнім. Вы ў балетках? Дрэнна, лапы будуць звальвацца, трэба быць у кедах на шнурках. Вентылятар у галаве ваўка зламалі журналісты да вас, таму трымайцеся.

Перад выхадам "у людзі" Ігар зашпільвае касцюм, абувае мне лапы, дае лапкі-рукавічкі.

Яшчэ з каштоўных указанняў Ігара запомніла, што трэба асцерагацца дзяцей з марожаным, берагчы хвост, бо кожны марыць за яго пацягаць, і глядзець пад ногі, таму што і там часта круцяцца дзеці.

Ігар аддае мне морду ваўка і папярэджвае:

– Пратрымайцеся хоць 10 хвілін. Мяне аднойчы пасля матча нават нашатырам ратавалі.

Пасля ўсяго гэтага я разумею, што хоць морду яшчэ не прымерала, а пот тоненькім струменем сцякае па спіне, нагах, пачынаюць мокнуць скроні.

Вось што хачу сказаць. Быць талісманам каманды і заўзятарам немагчыма. У галаве ваўка агляд мізэрны. Бачу толькі частку дарогі перад сабой і ружовы плюшавы язык. А яшчэ прашу прабачэння ў дзяцей, на чые прывітанні я не адказала. У галаве глуха як у танку.

Ігар расказаў, што асноўная задача Вулфі – фатаграфавацца з дзецьмі і падымаць баявы дух заўзятараў.

Першая частка задання зразумелая – праз хвіліну мяне абляпілі дзеці. Усе хочуць сфатаграфавацца, вітаюцца. Першыя хвіліны моўчкі ківаю, махаю лапамі.

Падыходзіць сфатаграфавацца маленькі светленькі хлопчык, усмешка такая, што замірае нават сэрца драпежніка.

– Як цябе завуць? – пытаюся я ў хлопчыка.

– Мікіта, – і вочкі ў хлопчыка пачынаюць акругляцца, – дык Вулфі што, дзяўчынка?

Але асноўная "дзвіжуха" пачынаецца на трыбунах. Дастаткова было толькі прысесці побач з чатырма дзяўчаткамі, як тут жа пачалося:

– А сфатаграфуйся са мной, і са мной, і з Лерай. І разам з намі дваімі, а цяпер усе разам. А я блага атрымалася, яшчэ раз, не, лепей седзячы, а цяпер, каб поле было бачнае.

**Пасля навалы гэтай гіперактыўнай саранчы з фотаапаратамі я адчуваю, як пот градам коціцца на твар, валасы намакаюць і прыклейваюцца да лба. Спрабую звыклым рухам рукі выцерці пот і разумею, што мая рука ўпіраецца ў вышчараную пашчу.**

Выйсце адно. Схавацца ад людзей і прывесці сябе ў належны стан.

Але… Заданне ніхто не адмяняў, і я вымушаная паказваць радасць.

Ну што ж, махаю лапамі, фатаграфуюся з усімі ахвотнымі. Пагаджаюся ісці ўслед за хлопчыкам Арсенем, які захацеў пазнаёміць Вулфі са сваімі мамай і татам, даю "пяць" усім, хто папросіць.

Просяць пераважна дарослыя мужчыны, сапраўдныя заўзятары. Я падымаю лапку і… мяне па ёй лупяць так, што, здаецца, дадому я прыйду без рукі. Ну, а што ж, яны ж шчыра, ад душы, з усёй сілы. Воўк жа таксама мужык.

Ужо амаль дайшла за вугла, каб схавацца, як раптам падбягае бацька з дачкой:

– А давай сфоткаемся разам з нашым любімым Вулфі.

– А давайце, – кажу.

– Ой, а хто там? А дзе сапраўдны Вулфі?

Жаночы голас чуюць шалёныя падлеткі:

– А-а-а-а, дык там цётачка. Ура! Можна руку ў пашчу засунуць. Ой, які ў вас хвосцік.

Ад дзяцей дапамагае адбіцца фатограф.

Дарэчы, здараліся і казусы.

Па-першае, тое, пра што гаварыў Ігар. Дзяцей не відаць абсалютна. Калі мелюзга падыходзіла фатаграфавацца, я толькі па тым, што яны прыціскаліся да нагі, адчувала, што побач яшчэ нехта ёсць.

Па-другое, калі просяць пра фотаздымак, я пазіравала як мае быць, усміхалася і думала пра тое, які ў мяне выраз твару. Забываешся пра тое, што астатнія бачаць толькі пысу ваўка.

Дык да казусаў. Ужо ў перапынку выходжу на поле, да мяне падыходзіць спецыяліст "Іслачы" па бяспецы.

– Ну, як ты сёння? Не горача?

– Ну, нармальна, горача толькі.

Паўза. Вялікія вочы. І раптам спалоханы голас:

– Хто там?

На перапынку заходжу ў распранальню, здымаю морду. Бачу ваду. Выпіваю літр адразу. Не палягчэла.

Забягае Ігар. Пытаецца, ці вытрымаю другі тайм. Задумалася. Можа б, і вытрымала. Прызвычаілася ўжо. Зразумела, што галаву ваўка трэба адкідаць назад, тады ёсць шанец убачыць тых, хто перад табой. Але вырашыла, што на першы раз хопіць, і перспектыва страціць прытомнасць на стадыёне на вачах ва ўсіх, будучы талісманам каманды, напужала.

Зноў з Ігарам мяняемся шкурамі. Тое адзенне, што было на мне, можна было выкручваць. Паверце, у саўне так не сагрэешся.

Выходжу на вуліцу. Халадна і мокра. Кідаю позірк на сапраўднага Вулфі, які пайшоў забаўляць дзяцей і падымаць дух каманды.

– Трымайся, Ігарок, – тлумач цяпер гледачам, што ў ваўку ўжо не цётачка.

**Наталля ТУР.**
**Фота Настассі РОЎДЫ.**



З Вулфі дзеці хацелі пазнаёміцца навобмацак, хапалі за хвост і засоўвалі рукі ў пашчу.



Дзяўчаткі-заўзятаркі з ваўком рабілі і фота, і відэа.




# Сельдэрэй – бясшкодны ўзмацняльнік смаку і паху

Агародніна, якая не такая распаўсюджаная, як, напрыклад, морква ці цыбуля, а вось карысці ад яе вельмі шмат.

Асабліва добра яе есці тым, хто хоча пахудзець. Але ўжываць не час ад часу, а рэгулярна, ды і разгрузачныя дні ладзіць з яе ўдзелам. Толькі тады лішнія кілаграмы пакінуць вас хутка і якасна. Сельдэрэй утрымлівае ўсяго 16 ккал на 100 г.

Ён лечыць парушэнні абмену рэчываў і паталогіі сэрца і сасудаў. Тут лепш прымяняць корань. Яго карысныя ўласцівасці з'яўляюцца добрай прафілактыкай атэрасклерозу, бо паніжаюць у крыві халестэрын.

А яшчэ сельдэрэй карысны для нашай памяці, засцерагаючы ад старэчага слабага розуму (хваробы Альцгеймера). Ды і мужчыны хай налягаюць на яго – шмат карысці. Але калі ёсць камяні ў нырках, то будзьце асцярожныя.

У сельдэрэі ёсць глутамінавая кіслата, што дазваляе выкарыстоўваць яго ў кулінарыі, як бясшкодны ўзмацняльнік смаку і паху.

А сцябло звычайна ўтрымлівае вялікую колькасць солі. Улічвайце гэта, калі соліце стравы.



### Салата з курацінай і сельдэрэем

*300 г курацінs, 150 г кораня сельдэрэю, 1-2 салёныя агуркі, зярністая гарчыца і соль – на смак.*

Адварыце ў падсоленай вадзе курынае мяса (грудку ці ножку, што больш даспадобы). Мяса астудзіце і парэжце на невялікія кавалачкі. Агуркі нарэжце саломкай, калі вялікія – выдаліце насенне.

Корань сельдэрэю пачысціце, нарэжце на скрылікі таўшчынёй каля 5 мм, а затым іх парэжце тонкай саломкай.

Для соусу маянэз змяшайце з зярністай гарчыцай. Усё інградыенты злучыце, па жаданні прыпраўце соллю, пасля чага дадайце заправку. Перамяшайце і пастаўце ў халадзільнік на 20-30 хвілін, каб салата насыцілася.

**Проста МАРЫЯ.**
**Фота selderej.com.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | 7 | | | | 5 | | |
| | 3 | | 2 | 9 | | | | |
| 4 | 6 | | | 7 | | 1 | | |
| | | | | | 7 | | | |
| | 9 | | 5 | 2 | 4 | | 7 | |
| | | | 6 | | | | | |
| | | 5 | | 1 | | | 4 | 8 |
| | | | | 5 | 2 | | 3 | |
| | | 2 | | | | 7 | | 5 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АФІША



Фота scifidaily.ru.

Ролю Эйпрыл выконвае Мэган Фокс.

# "Чарапашкі-ніндзя 2": Жыць як усе? Не, для нас гэта сумна

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Кінатэатры і Вілейкі, і Маладзечна аднаачасова прапануюць гледачам галоўныя фільмы тыдня: "Чарапашкі-ніндзя 2" і "Аліса ў Залюстаркоўі". Маладзечанская "Радзіма" дадае таксама карціну "Варкрафт".

**"Чарапашкі-ніндзя 2"** – прэм'ера для ўсіх, хто ведае, што Мікеланджэла, Данатэла, Рафаэль і Леанарда – гэта не толькі мастакі Рэнесансу.

Для тых, хто глядзеў пра іх на відэакасетах да дзірак, каго захапіла атмасфера Нью-Ёрка, у якім чарапашкі змагаюцца са Шрэдэрам, для каго дзяцінства – гэта "Чарапашкі-ніндзя", для ўсіх вас падрыхтаваны смачны глыток настальгіі.

У гэтай частцы знаёмых герояў стане больш. Лінія журналісткі Эйпрыл будзе развівацца ў рамантычным рэчышчы – у сюжэт увялі Кэйсі Джонса, з якім у сяброўкі чарапашак завяжуцца прыязныя адносіны.

Пікантнасці фільму дадасць і персанаж Карай – дачкі галоўнага антаганіста герояў Шрэдэра.

"Чарапашкі-ніндзя" – гэта заўсёды захапляльныя бойкі, шчырыя эмоцыі, вынаходлівасць у барацьбе са злом, сіла братэрства і сяброўства, якая пераадолее ўсе перашкоды і аб якую разбіваецца любое зло, што пагражае чалавецтву. Але ці гатовыя людзі прыняць дапамогу ад істот, якія так дзіўна выглядаюць?

У гэтай частцы фільма шмат увагі надаецца тэме лідарства і таму, што робіць каманду моцнай.

**Толькі калі разумееш, у чым адметнасць і сіла кожнага, можаш прыдумаць самы неверагодны план і зрабіць тое, што не можа ніхто іншы.**

На карціну варта схадзіць тым, для каго чарапашкі-ніндзя – гэта салодкі ўспамін дзяцінства. Прысмак настальгіі варта падзяліць з сябрамі, а найлепш са сваімі дзецьмі, якія безумоўна раздзеляць з вамі захапленне гераічнай чацвёркай.

Другая карціна, якая захопіць і дарослых, і дзяцей, – праца фантастычнай гісторыі **"Аліса ў Залюстаркоўі"**.

Гераіня зноў вяртаецца ў Краіну цудаў, але там яе сябры ў небяспецы. Краіну захапіў злодзей па імю Час. Ён разбурыў усё, што там захапляла. І цяпер толькі Аліса можа выратаваць Вар'яцкага Шляпніка і іншых сяброў. Ці зможа дзяўчына вярнуцца ў мінулае, змяніць ход часу і перамагчы цемру?

Як і іншыя прэм'еры перыяду, **"Варкрафт"** – гэта дынамічная і графічна адметная карціна, пабудаваная на сусвеце аднайменнай культавай камп'ютарнай гульні. Яе асабліва ацэняць фанаты серыяла "Вікінгі", таму што выканаўца ролі Рагнара Лодбрака Трэвіс Фімел у "Варкрафце" іграе галоўнага героя з боку Альянса.

Заходняя крытыка дала пераважна адмоўныя ацэнкі фільму, а расійская – станоўчыя. Што тычыцца Беларусі, то ў першы дзень "Варкрафт" сабраў рэкордныя паказчык за першы дзень прагляду па краіне – каля 95 тысяч долараў у эквіваленце.

Для аматараў фэнтэзі "Варкрафт" можа стаць новай фэнтэзійнай серыяй. Завяршылі здымкі толкіенаўскай сагі, "Зорныя войны" не абяцаюць былога бляску. Ці можа іх месца заняць серыя фільмаў па сусвеце "Варкрафта"? Распрацоўшчыкі карціны думаюць пра другую частку, але гэты праект залежыць ад касавых збораў сёлетняй прэм'еры.

А ў ёй чакае жывая графіка, інтрыгі, геройства, моцныя эмоцыі і абсалютна неверагодная атмасфера – усё гэта раскрывае фраза: "Што б ты ні задумаў, зрабі гэта зараз". Ці змогуць ворагі аб'яднацца, каб выжыць?

КІНО ВІЛЕЙКІ

Кінатэатр "Мір" таксама прапануе заваражваючы працяг гісторыі пра фокуснікаў – фільм **"Ілюзія падману 2"**.

У гэтай частцы персанажы сутыкнуцца з помстай, іх ворагі сталі магутнымі, але і "магія" ілюзіяністаў значна ўзмацнілася. Фільм пад слоганам "Вы яшчэ нічога не бачылі" стварыць аднаачасова небяспечную, прыгожую і чароўную атмасферу.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




● ГАРАСКОП
10-16 ЧЭРВЕНЯ


**Авен.** Прысвяціўшы час зносінам з роднымі, вы зможаце адкрыць новую старонку сямейных адносін.


**Цялец.** Любыя спробы змяніць жыццё да лепшага вам удасца ажыццявіць беспераШкодна. Хацявы іх ужо нейкую частку і ажыццявілі.


**Блізняты.** Час найлепшым чынам падыходзіць для таго, каб спакойна планаваць і чакаць найлепшага моманту для дзеянняў. Падумайце над тым, што можа вам прасцей пачаць эканоміць, чым больш зарабляць. Для вырашэння жыццёвых праблем спадзявайцеся на сваю інтуіцыю і азарэнне – адказ на многія пытанні прыйдзе звыш.


**Рак.** На першы план выйдзе сям'я, таксама можна будзе назіраць небывалую сацыяльную актыўнасць. Пачатак перыяду багаты на ідэі і новыя захапленні. А яшчэ звярніце ўвагу на фінансавыя справы – займіцеся падлікам сваіх даходаў і расходаў. Гэта пойдзе на карысць.


**Леў.** Вы будзеце поўныя ідэй і жадання іх увасобіць. Проста цудоўны перыяд для творчасці і кар'еры. Ваша працаздольнасць здзівіць усіх – і вас у першую чаргу.


**Дзева.** Раўнавага ў сям'і не пацерпіць, калі вы толькі не ўявіце сябе кіраўніком у роднам доме.


**Шалі.** Спасцігайце свет і падзеі, якія адбываюцца ў ім, такімі, якія яны ёсць, без спробы ўмяшацца і штосьці змяніць. Вучыцеся мудрасці ў жыцця.


**Скарпіён.** Старайцеся размаўляць дома са сваімі роднымі і быць у курсе ўсіх іх спраў, інакш яны могуць аддаліцца ад вас.


**Стралец.** Дэвіз перыяду: дабрабыт уласнай сям'і і наведзенне парадку і ўтульнасці ў доме. І не перажывайце з-за якіх бы там ні было дробязяў, кожнай падзеі давайце дакладную і ўзважаную ацэнку, нічога не прымяншаючы і не перавялічваючы.


**Казярог.** Прыслухоўвайцеся да таго, што кажуць вам вашы творчыя парывы, каб абавязкова ўвасобіць іх на практыцы.


**Вадалей.** Дні напоўняцца цяплом пачуццяў і эмоцый. Узмоцніцца залежнасць ад сваяцкіх узаемаадносін.


**Рыбы.** Наступіў час пажынаць плады сваёй дзейнасці, і калі вы сапраўды стараліся, то і плады будуць адпаведныя. Прымаць актыўныя дзеянні не мае сэнсу, трэба адпачываць і атрымоўваць тое, што заслужылі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

**11 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +8 / +17 | | +12 / +12 | | +10 / +17 | | +9 / +21 | |
| | 736 | ↑ 6 | 729 | → 9 | 739 | ↘ 4 | 735 | ↑ 6 |
| **Вільня** | +14 / +23 | | +14 / +22 | | +8 / +17 | | +8 / +21 | |
| | 742 | ↑ 6 | 738 | ↘ 7 | 747 | → 3 | 742 | ↑ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне



Усход 4.38
Захад 21.46
Даўжыня дня 17.08

Усход 11.57
Захад 1.07
Квадра 1




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВИЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +0,9 °С у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +30,6 °С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 30,7 мм у 1988 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як саліст "Песняроў" Артур Міхайлаў за месяц схуднеў з 98 да 84 кілаграмаў? Для чаго фатаграфуе ежу і нашто ў шафе трымае шакаладку? Пра свой рэцэпт стройнасці і пра свае дзівацтвы Артур раскажа ў наступным нумары "РГ".**

## На возеры Свір адкрылі турстаянку

МЯДЗЕЛ

У Нацыянальным парку "Нарачанскі" з'явілася яшчэ адна турыстычная стаянка – агулам стала іх 16.

Новая стаянка "Залатая горка" размешчаная на беразе возера Свір – у чатырох кіламетрах ад гарадскога пасёлка Свір. Яна абсталяваная навесамі, пляцоўкамі для вогнішча, кантэйнерамі для смецця, туалетамі.

– Гэту стаянку адкрылі, паколькі попыт на адпачынак на беразе возера Свір пастаянны, – кажа начальнік аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Людміла Краўчонак**. – Бліжэйшыя турстаянкі знаходзяцца ў прыродным комплексе "Блакітныя азёры". З'яўленне новага аб'екта дазволіць разгрузіць іх.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## Актыўны адпачынак – гэта крута, або У пошуках Гомсіна каменя

ВІЛЕЙКА

**Па традыцыі 8 "Б" клас вілейскай гімназіі №1 "Логас" заканчвае чарговы навучальны год паходам.**

На гэты раз пайшлі адпачываць у Куранец. Чаму? Хацелі адшукаць вядомы Гомсін камень. Яго мы бачылі на малюнку шмат разоў, а вось ужывую... Ды і славутасцяў у самім Куранцы і па дарозе туды вельмі шмат. Дружна і весела прыйшлі да адзінага ў Беларусі музея пад адкрытым небам "Памяці былых вёсак". Правялі квэст на веданне месцазнаходжання некаторых вёсак.

Пасля кароткага адпачынку рушылі далей. Памятны знак на месцы гібелі экіпажа самалёта Паніна. Помнік партызанам-падпольшчыкам. Гісторыя смерці героя **Леаніда Малькевіча** зацікавіла васьмікласнікаў.

Далей Куранец. Алея з дрэў грэцкага арэха, сустрэча з вужом і агульны фотаздымак на памяць.

Мы наведалі касцёл, які быў зусім нядаўна адкрыты, і магілу 18 паўстанцаў 1863 года. Асабліва нас уразіла царква Раства Прасвятой Багародзіцы – помнік архітэктуры 1870 года. Урачыста і велічна ўзвышаецца яна на самым высокім месцы Куранца. Наведалі яшчэ брацкую магілу савецкіх воінаў і партызан.

Але які адпачынак без вогнішча і возера! Спыніліся на беразе невялікага возера ў баку ад мястэчка, распалілі вогнішча, згатавалі чай, пяклі сала і сасіскі, зладзілі агульны стол. Было класна і весела.

А дзе ж Гомсін камень? Шукалі, пыталіся ў мясцовых жыхароў. Аказалася, мала хто ведае, дзе знаходзіцца гэты гістарычны помнік. Адзін з самых вялікіх валуноў, Гомсін камень, мы знайшлі на ўскраіне Куранца. Вельмі вялікага памеру, а быў раней яшчэ большым, але хтосьці з мясцовых чамусьці спрабаваў яго падарваць. У яго, як і ў многіх валуноў, ёсць свая легенда. Згодна з ёй, на гэтым месцы калісьці стаяла хата шаўца Гомсы (або Комсы), які працаваў на Вялікдзень.

**За гэта і быў пакараны: маланка ўдарыла ў дом, і ён ператварыўся ў камень.**

Стомленыя, але вясёлыя мы вярталіся дадому вечарам. Надоўга запомніцца такі адпачынак вучням 8 "Б" класа гімназіі №1 "Логас".

**Алена МАЧЭЛЬ, класны кіраўнік.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці з'яўляецца фестываль для вас стрэсам?



**Тамара Войніч, пенсіянерка:**
– Не, ні ў якім разе. Я наадварот радуюся за наш горад, што ў нас такая падзея адбудзецца. Я збіраюся пайсці на фестываль, гэта ж Фінберг прыедзе.



**Аляксей Палаўкоў, пенсіянер:**
– Фестываль – не стрэс. Стрэс – гэта размаўляць з незнаёмай дзяўчынай. Чаму фестываль не стрэс? Ды таму, што ён праходзіць міма мяне. Я ўсе выхадныя буду працаваць на лецішчы.



**Алена Лабанок, выкладчыца:**
– Ды ну! Дурныя тыя людзі, хто так думае. Я наадварот сваіх сяброў з Украіны запрасіла ў госці на гэтыя выхадныя, бо тут і выпускны, і фестываль. Ёсць на што паглядзець і куды схадзіць.



**Ігар Кавецкі, толькі адслужыў у войску:**
– Тое, што перакрываюць вуліцы, канешне, нязручна, але гэта драбяза. Уражанне ад свята не псуецца ад гэтага.



**Павел Бубен, навучэнец:**
– Фестываль – для мяне гэта радасць. Нават натоўпы людзей радуюць, бо чым больш народу, тым святочней і весялей.



**Раіса Касяк, пенсіянерка:**
– Гэта добры стрэс. Перашкаджаюць, канешне, натоўпы людзей, мітусня, але фестываль жа раз на год, можна і пацярпець. Я і сама люблю на канцэрты хадзіць, калі атрымоўваецца.



**Кацярына Цар, у дэкрэтным адпачынку:**
– Тое, што перакрываюць дарогі, мне не перашкаджае, я ўсё адно перамяшчаюся па горадзе пешшу. А на фестываль я хаджу люблю з-за горада майстроў. Вельмі падабаюцца штукі, якія майстры робяць сваімі рукамі.

**Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№24 (1102) 10.06.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 554 . Падпісана ў друк у 9.00 9.06.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.